# “САКАВІК”

## незалежны перыядычны *on-line* часопіс у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці

## №5

## Сакавік 2014

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*

 ISSN 2291-4757

## Дарагія сябры!

Часопіс "САКАВІК" заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс змяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com



*Аттава, Канада*

 ISSN 2291-4757

# Зьмест часопіса «САКАВІК» №5, сакавік 2014



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў чэрвені 2014 года*

# ПЁТРА МУРЗЁНАК: ПРАДМОВА ДА ПЯТАГА НУМАРА ЧАСОПІСА

**Дарагія сябры!**

Роўна год прайшоў з часу публікацыі першага нумара вэб-часопіса "САКАВІК". Часопіс выходзіць раз у тры месяцы. Рады паведаміць, што за год наш часопіс наведалі больш за 2200 чытачоў (каля 6300 праглядаў). Прыемна таксама адзначыць, што асноўную частку нашай аўдыторыі складаюць наведвальнікі з Беларусі (57%). Нас чыталі ў 38 краінах, сярод самых нядаўніх - да нас далучыліся чытачы з Бразіліі, Новай Зеландыі, Інданэзіі.

На старонках часопіса "САКАВІК" у пяці нумарах апублікаваны 23 артыкулы дзесяці аўтараў (пяць аўтараў з Беларусі, чатыры аўтары з Канады, і адзін аўтар з ЗША). Агульны аб'ём друкаваных матэрыялаў у пяці нумарах часопіса склаў 270 старонак. Часопіс прымае для публікацыі артыкулы пераважна на беларускай мове, аднак, публікацыі на іншых мовах таксама вітаюцца: з 23 апублікаваных артыкулаў, 18 - на беларускай мове, тры - на англійскай, і два - на рускай. Асноўны напрамак часопіса - падтрымка і развіцьцё беларускасьці: у адпаведнасьці з гэтым у артыкулах даецца аналіз сітуацыі ў Беларусі і шляхоў рэалізацыі нацыянальнай ідэі (V. Kozlova, №1, 2, 5; П. Мурзёнак, №1, 4, 5), разглядаюцца пытаньні самаідэнтыфікацыі і сьвядомасьці беларусаў (В. Воранаў, №1; Г. Туміловіч, №1; І. Хадарэнка, №3; А. Згерскі, №4), развіцьця грамадства з пункту гледжаньня тэарэтычнай культуралогіі (М. Крукоўскі, №4), выказана і абгрунтавана гіпотэза аб існаваньні усходнеславянскай беларуска-украінскай цывілізацыі (П. Мурзёнак, №2, 3), пра харaство краіны і любоў да Беларусі вы можаце пачытаць у эсэ П. Севярынца (№3), арыгінальная інфармацыя пра абразы Прасьвятой Багародзіцы ў Беларусі падаецца архіяпіскапам Сьвятаславам Логінам, Першаярархам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (№5), інфармацыя аб арганізацыі фестываляў арганнай музыкі на Пастаўшчыне і Глыбоччыне ў артыкуле Т. Стружэцкага (№4), зьмешчаны пераклады на беларускую мову Л. Рыда (В. Воранаў, №1) і прамовы Н. Мандэлы (П. Мурзёнак, №4), а таксама эсэ Г. Туміловіч пра творчасьць і намінацыю кнігі С. Алексіевіч на нобелеўскую прэмію (№5).

У пятым нумары Вы знойдзеце артыкул П. Мурзёнка "Нацыя і свабода", прысьвечаны аналізу фактараў, якія ўплываюць на ўмацаваньне нацыянальнай свабоды. Пытаньні, якія разглядаюцца ў гэтым артыкуле і ў артыкуле В. Козловой вельмі сугучныя тым драматычным падзеям, якія зараз адбываюцца на Украіне. Ваенная агрэсія Расіі супраць Украіны прадэманстравала вялікую пагрозу для будаўніцтва нацый падвойных стандартаў, што ужываюць як Расія, так і ЕС і ЗША.

Агрэсія Расіі таксама паказала глыбокі падзел, які існуе паміж еўразійскай і ўсходнеславянскай беларуска-украінскай цывілізацыямі (гл. часопіс "САКАВІК", №2 і №3).

Кажучы пра арганізацыйныя пытаньні, адзначым, што часопіс публікуецца толькі ў электронным фармаце і разьмешчаны на вэб-сайце www.sakavik.net. Апроч матэрыялаў самаго часапіса "САКАВІК" мы размяшчаем на вэб-сайце матэрыялы з другіх крыніц. Усе публікацыі падрыхтаваныя менавіта часопісам ідуць з лагатыпам часопіса “САКАВІК”:

Матэрыялы, разьмешчаныя на вэб-сайце, размеркаваны таксама па катэгорыях, уключаючы такія як “нацыя”, “нацыя беларусы”, “культура”, “Мова”, “гісторыя”, “асьвета”, “асобы”, “рэлігія”, і іншыя. На сайце Вы знойдзеце лінкі да выданьняў і вэб-сайтаў, якія па духу блізкія нашаму часопісу, а менавіта да тых, якія адлюстроўваюць культуралагічныя і гістарычныя адметнасьці беларускага народа і спрыяюць развіцьцю беларускасьці. Паступова на сайт ставім партрэты знакамітых людзей, якія прынесьлі гонар і славу нашай краіне. У рамках праекта "РАЗАМ" часопісам запачата Бібліятэка слайдаў "БЕЛАРУСЬ НАЗАЎСЁДЫ"; выйшлі першыя тры серыі слайдаў: "Беларуская дзяржаўнасьць", Полацкае княства", і "Беларусы ў часы Вялікага Княства Літоўскага".

Абмяркоўваючы пытаньні паляпшэньня працы часопіса хацелася б бачыць большую колькасьць каментараў. Відавочна, што гэта залежыць не толькі ад якасьці матэрыялаў, але і ад актыўнасьці чытачоў. Калі прасачыць каментатарскую актыўнасьць на іншых вэб-сайтах, то ў гэтым сэнсе можна адзначыць, што беларускі чытач даволі сьціплы. Тое ж самае можна сказаць і пра ўдзел чытачоў у праекце "РАЗАМ": пакуль што базу даных праекта ствараюць супрацоўнікі часопіса.

Мы зьвяртаемся да журналістаў, блогераў, чытачоў дасылаць свае матэрыялы ў наш часопіс. Што тычыцца аналітычных артыкулаў, то галоўнае пажаданьне, каб не менш паловы аб'ёма займалі магчымыя рэкамендацыі і шляхі вырашэньня абмяркоўваемых праблем.

З найлепшымі пажаданьнямі,

рэдактар часопіса Пётра Мурзёнак

**VIKTORYIA KOZLOVA:**

**BELARUSIAN PERSPECTIVE on CRISIS in UKRAINE**

*(magazine "SAKAVIK", March 2014, issue 5, pp. 6-9)*

During the Orange Revolution in 2004-2005, Viktor Yushchenko, came to power as a pro-Western President. He was accepted by the Western community as the leader of Ukraine. In the next elections, pro-Russian President Yanukovich was elected and took over and continued with negotiations for the Association Agreement with the EU. However, as expected, Yanukovich refused to sign the Association Agreement because of the pressure exerted by Russia. Current extensive economic relations between Russia, Ukraine and other post-Soviet States allow Russia to continue their deep relations with these former member states of the USSR. When needed Russia pressures other countries, such as Ukraine, so they will not risk not complying.

In the midst of this crisis in Ukraine, Belarus has a window of opportunity. While the world is focused on Crimea and Ukraine, no one is paying much attention to their Northern neighbour. Even though Belarus only shares its Southern border with the North of Ukraine, it is physically the only division between the EU and Russia. No wonder the European Neighbourhood and Partnership Instrument began financing training for journalists from Belarus. More recently Belarus requested that Russia deploy additional combat aircraft on its territory.

This short article will look at a Belarusian perspective in this situation and which possibilities Belarus can take advantage of, while the turmoil continues in Ukraine. First, the paper will analyze the advantages and disadvantages of its geographical position with respect to the EU and Russia. Second, it will focus on the implications for energy distribution in the region. The article will conclude by summarizing a Belarusian perspective on Ukraine crisis.

*Geo-Politics*

The strategic location of Belarus can be used to its advantage by the Belarusian people and Belarusian government. Belarus will continue supporting Russia for as long as it continues to be their backbone. At the same time, if the European Union through its Neighbourhood Partnership Instrument offers programs that directly support Belarusian citizens and indirectly benefit Ukraine, they wouldn't refuse that offer. A recent example is EU financial support for training Belarusian journalists. Opportunities have been and will

continue to become more available for young citizens and activists to participate in EU funded events, training and workshops. This training in journalism could be later used in Ukraine while the knowledge will remain with Belarusian citizens.

The territory of Belarus has frequently experienced physical battles and served as a shield for Russia in the past. Belarus certainly does not want to experience any additional fighting even if it is in a neighbouring country. However, to protect itself, and assist Russia at the same time, it offered to deploy up to 15 additional warplanes in the Belarusian territory in response to increased NATO activity. One day later, Russia took advantage of that opportunity and sent six Sukhoi Su-27 fighter jets and three military transport aircraft to an airfield in Babruysk, in Mahiliou region near Ukraine, ensuring that they could participate in the Belarusian army's operational readiness test on Friday, March 14, 2014. The Belarusian Defense Ministry stated that they would take appropriate measures in case of further troop build-up in the neighbouring countries, referring to Ukraine.

The secession referendum in Ukraine will set precedence for the upcoming Presidential elections in May 2014. Already, there is a clear division between Western governments that do not recognize the all-Crimean referendum that took place on March 16, 2014. Russia, on the other hand, has recognized and accepted the referendum in Crimea.

*Energy Implications*

It is important to note that in the last few years, Russia has had a strategic priority of increasing and using its energy capabilities to gain the status of a significant energy player in the world. The following energy implications resulting from this crisis will drastically affect Russia, the EU, Belarus and Ukraine.

EU: disruption in the supply of gas and oil from Russia, in the short term, could be replaced by large amounts of reserves the EU has been able to store during this mild winter. In the long run supplies would be largely affected and there will be an urgent need to look for alternative suppliers. The US does not have the capacity at the moment to export needed amounts of gas and oil to the EU.

Ukraine: In the short term, if the disruption in supplies occurs Ukraine could begin to use some of the reserves it has made during this winter. However, it will be difficult to find the alternative amounts of energy needed quickly. In addition, Ukraine will need to begin to repay its loan to Russia, furthering increasing its debt. Alternative energy investments could be one of the best ways to guarantee energy security in the long term by making Ukraine less energy dependent on Russia.

Russia: having the EU as a main consumer of its energy, Russia will be forced to form closer relations eastwards with China. Luckily, China is ready to do so, but it will come at a large cost for Russia, due to position it will be in. Gazprom's South Stream, and the unification of the energy system in the EU is all at stake and it is estimated that Russia would lose about 2% of GDP if full sanctions were implemented. Then Russia would not be able to fulfill its social obligations. Russia has used its energy frequently as a tool to manipulate international relations and will perceive sanctions as a large threat furthering the divide between the West and East.

*Belarusian Perspective*

Belarus is sympathetic to Russia for the treatment it receives by the international community because the international community treats Belarus the same way. Belarus feels the effects of double standards and the international community's preference for smaller countries that have commodities to offer. Belarus does not have many resources to offer and keeping Russia as an ally seems to be in their best interest. Belarusian authorities express their support for Russia by condemning protests in Belarus supporting a pro-European Ukraine. During recent uprisings that occurred in Belarus, protestors were jailed.

Essentially, Belarus is squeezed between the EU, Russia and Ukraine. Belarus does not fit, or even want to fit into the EU circles. It does not have a smooth relationship with Ukraine, and all it is left with is Russia. When the relationship with Russia hits its lows, as it did in 2010, Belarus looked elsewhere for support. According to the National Statistical Committee of Belarus, Belarus signed an agreement with Venezuela in 2010 to import crude oil, resulting in over $1 billion worth of crude imports in both 2010 and 2011. When relations with Russia improved in 2012, the amount of oil imported was drastically reduced to only $300 million. Belarus must constantly manoeuvre as necessary to fit the situation and reduce its losses.

Carefully planning every step, Belarus can achieve positive outcomes from the current crisis in Ukraine, or it can suffer losses. It is up to the Belarusian authorities and citizens to choose what they perceive as important.

**Viktoryia Kozlova: BELARUSIAN PERSPECTIVE on CRISIS in UKRAINE**

*(abstract, magazine "SAKAVIK", March 2014, issue 5, pp. 6-9)*

This short article looks at a Belarusian perspective and which possibilities Belarus can take advantage of, while the turmoil continues in Ukraine. First, the paper analyzes the advantages and disadvantages of its geographical position with respect to the EU and Russia. Second, it focuses on the implications for energy distribution in the region. The article summarizes a Belarusian perspective on Ukraine crisis.

**АРХІЯПІСКАП СЬВЯТАСЛАЎ ЛОГІН:**

**БЕЛАРУСКІЯ ЦУДАТВОРНЫЯ ІКОНЫ ПРАСЬВЯТОЕ БАГАРОДЗІЦЫ**



Сьвятая Жыровіцкая нерукатворная ікона Багародзіцы,
створаная на камені, яўленая на грушовым дрэве ў 1470 г.

Маці Божая Марыя – найбольш шануемая сьвятая пасьля Госпада Бога ў Праваслаўнай, Каталіцкай і іншых хрысьціянскіх Цэрквах. Хрысьціянства за тысячу годоў у Беларусі вырабіла асаблівы культ Багародзіцы ў народзе, які заўсёды меў моцную веру. Гімнам ВКЛ у 14-18 ст.ст. быў гімн “Багародзіца”. У кожнай беларускай хаце знаходзіліся іконы, людзі штодзённа прыносілі малітвы, датрымоўваліся царкоўных сьвятаў і пастоў, будавалі цудоўныя храмы. Беларуская Царква мае кагорту выдатных сьвятых людзей.

Госпад удастоіў Беларускую зямлю многімі цудамі, сярод якіх былі й цудатворныя іконы, бальшыня якіх – Прасьвятое Багародзіцы. Яны ёсьць духоўным багацьцем нацыі, як напрыклад – сьв. Крыж Еўпрасіньні Полацкае. Іхная гісторыя (жыцьцяпіс) – частка гісторыі ня толькі Беларускае Царквы, а і ўсяе Беларусі. На сёньня вядома іхная колькасьць – больш за 200. Гэта болей, чым мае любы іншы хрысьціянскі народ. Іхны пералік ёсьць на сайце Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (www.belapc.org). Шанаваньне іконы пачыналася простымі вернікамі, далей сьведчаньні пра цуды фіксаваліся сьвятарствам і тады царкоўныя ўлады вызначалі, што дадзеная ікона ёсьць цудатворнаю і заносілася ў месяцаслоў. У Каталіцкай Царкве – папа Рымскі сам каранаваў такія іконы (напрыклад – Вострабрамская). Цудатворным іконам усталёўваецца дзень сьвяткаваньня, складаюцца трапары,

службы, малітвы, каноны, акафісты... У іхны гонар асьвячаюць храмы, напрыклад – сьв. Жыровіцкае іконы Божае Маці названы некалькі беларускіх цэркваў на эміграцыі. Менавіта гэтая ікона ёсьць найбольш шанаванаю ў Беларусі і лічыцца апякункаю Беларускага народу. Самое ейнае з'яўленьне адбылося цудным чынам у 1470 г. як нерукатворнае. Яна створана Боскаю сілаю з каменю, маленькая за памерам – з курынае яйка, але мае вялікую духовную сілу. Жыровіцкі манастыр – адзіны ў Беларусі, які не зачыняўся ні за якое ўлады, бо заўсёды ў ім прысутнічала гэтая цудатворная ікона Багародзіцы.

Розны лёс спаткаў цудатворныя іконы. Многіх зь іх ужо няма зусім, многія зь іх былі вывезеныя зь Беларусі, але ёсьць іхныя копіі, пра некаторыя зусім не засталося ніякіх вестак.

Баркалабаўская ікона мае гісторыю, схожую на лёс ўсяе Беларусі. Калі ў палове 17 стагодзьдзя расейскія войскі нішчылі Вялікае Княства Літоўскае, яны рабавалі як ліцьвінаў так і Боскія храмы. У 1659 г. расейскі вайсковы начальнік, вяртаўся ў Маскву з абозам нарабаванага. Адзін ягоны воз стаў каля Баркалабаўскага манастыра (недалёка ад г.Быхаў, Магілёўшчына) і што толькі ні рабілі, конь ня мог рушыць зь месца. Тады маскавіт убачыў на возе, сярод награбленага ім дабра, ікону Багародзіцы, якую вярнуў ігумені гэтага манастыра, пасьля чаго ягоны конь пайшоў. Гэтая ікона, якая была напісана і знаходзілася ў адным з храмаў Заходняе Беларусі, стала ўжо звацца Баркалабаўскай, каля яе сталася шмат розных цудаў, яе шанавалі ня толькі ў ВКЛ, але яна была вядома і ў Еўропе. Госпад надзяліў яе такою сілаю, што яна перажыла ліхалецьце войнаў і савецкае ўлады. Ні царскі маскаль, ні савецкі не змаглі яе зьнішчыць. І цяпер, у 21-м ст., у гэтым жа беларускім манастыры да гэтае іконы прыходзяць вернікі з малітвамі.

Бальшыня іконаў адносіцца да тыпу “Адзігітрыя”, некаторыя – да тыпу “Замілаваньне”, але ёсьць і зусім унікальныя. Напрыклад, Купяціцкая ікона (у форме крыжа) з’явілася цудным чынам у 1182 г. на Палесьсі.

Можна падзяліць іконы на вядомыя і малавядомыя (у Беларусі, у сьвеце), але цяпер Расейская Праваслаўная Царква, якая існуе ў Беларусі (Беларуская Царква там забаронена), усё робіць, каб зьнішчыць беларускае – мову, абрады, сьвяты, традыцыі, царкоўную архітэктуру, іканапіс ... Цяжка цяпер набыць у Беларусі ікону нейкага беларускага сьвятога ці беларускую ікону Багародзіцы, затое царкоўныя крамніцы завалены іконамі Казанскімі і іншым маскоўскім царкоўным шырпатрэбам.

Паводле даўнасьці. Самымі старажытнымі на Беларускіх землях былі іконы, напісаныя Евангелістам Лукашом (1 ст. пасьля нараджэньня Хрыста), якія пасьля хросту Беларускіх земляў трапілі зь Бізантыі:

- Менская (якая захавалася і знаходзіцца ў Сьвята-Духавым Саборы ў Менску);

- Смаленская (выкрадзеная маскавітамі і павернутая ў 1456 г., прададзеная саветамі ў 1930-я г.г.);

- Эфэская (прывезеная Еўпрасіньняю Полацкаю ў Полацк і вывезеная маскавітамі ў 17 ст.);

- Вострабрамская (у старажытнасьці замененая на цяперашнюю).

Частка іконаў – з часоў Кіеўскае Русі. Бальшыня Беларускіх цудатворных іконаў з'явілася ў часы ВКЛ, калі ягоная Праваслаўная Царква была незалежнаю.

Некаторыя іконы праславіліся, калі Беларусь была пад царскай Расеяй. Напрыклад – Пружанская ікона праславілася ўжо ў 1934 г., калі Заходняя Беларусь была пад Польшчаю. Яшчэ ёсьць жывыя сьведкі гэтага цуда. Бачым, што Госпад не застаўляе людзей без належнае апекі і ў наш час.

Дні сьвяткаваня іконаў Жыровіцкае (20 траўня – н.ст.) і Мінскае (26 жніўня – н.ст.) замацаваныя ў Беларускай Царкве як Вялікія Сьвяты. Беларусы заўсёды ладзілі паломніцтвы да сьвятых месцаў і іконаў. Некалі мой дзед, калі яму была ўсяго 10 гадоў (1908 г.), са сваёю маткаю пешшу хадзілі з-пад Наваградка да Вільні, каб пакланіцца сьвятое Вастрабрамскае іконе Багародзіцы (гэтую ікону шанавалі ня толькі праваслаўныя і каталікі, а й нават юдзеі).

У Беларусі зафіксавана дзясяткі яўленьняў самое Прасьвятое Багародзіцы, але гэта ўжо іншая тэма, як і – Беларускія Сьвятыя, сьвятыя месцы ...

Таму, будучы на сваёй Бацькаўшчыне, не забывайце пакланіцца сьвятым месцам, мошчам сьвятых і сьвятым іконам, перад якімі маліліся нашыя продкі і якімі дабраслаўлялі перад бітвамі нашых дзядоў, і папрасіць у Прасьвятое Багародзіцы ейнага заступніцтва перад Госпадам за сваю сям'ю, за Беларускі народ і Беларускую дзяржаву. Сіла малітвы вельмі вялікая, няма нічога мацней за Госпада і ягоную Царкву.

З малітвамі,

Архіяпіскап Сьвятаслаў Логін,
Першаярарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**Archbishop Sviataslau Login, the Head of the Belarusian Autocephalous Orthodox Church: BELARUSIAN MIRACULOUS ICONS OF THE MOTHER OF GOD**

*(abstract, magazine "SAKAVIK", March 2014, issue 5, pp. 10-13)*

This review is about miraculous icons of the Mother of God known in Belarus. The Lord granted the Belarusian land by many miracles among them there are the miracle-working icons, most of which the Mother of God. They have spiritual wealth of the nation, such as St. Cross of Euphrasinnia of Polatsk. The story of those icons is the part of the history not only of Belarusian Church, but also of all Belarus. Today more than 200 icons are known. Some of the icons are from the time of Kievan Rus, the others – of the Grand Duchy of Lithuania when the Orthodox Church was independent. There is a list of those icons on the site of the Belarusian Autocephalous Orthodox Church (www.belapc.org). Various fates are for miraculous icons. Many of them disappeared or were exported from Belarus, and there are copies for some of them. Some of the icons are absolutely unique, for example, Kupyatsitskaya icon (in the form of cross) (*Kupiatsichy Cross Icon of Theotokos*) appeared by miracle way in 1182 on Paliessie.

**ПЁТРА МУРЗЁНАК: НАЦЫЯ І СВАБОДА**

*Да 225-годдзя прыняцьця “Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна”.*




**Свабода для нацыі - як глыток вады кожны дзень!**

**За свабоду нацыі трэба змагацца!**

**Свабодай нельга гандляваць!**

## УСТУП

Прынятая 26 жніўня 1789 г. падчас Французскай рэвалюцыі “Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна” гарантавала шэраг індывідуальных і палітычных свабод, грамадскую бясьпеку, падзел каралеўскай улады. У Дэкларацыі запісана (Арт. 4): “Свабода азначае магчымасьць чалавека рабіць усё, што не стварае праблем іншым людзям: так, ажыцьцяўленьне натуральных правоў кожнага чалавека абмяжоўваецца толькі магчымасцю іншых грамадзян карыстацца тымі жа самымі правамі. Такія абмежаваньні вызначаюцца выключна законам”. Гэта палажэньне - добрая ілюстрацыя разуменьня свабоды ў сучасным грамадстве.

Гаворачы пра свабоду мы вольна ці міжволі зьвязываем яе з другімі вельмі блізкімі паняцьцямі, такімі як дэмакратыя і права. Прывядзём некалькі вызначэньняў, што ёсьць свабода: “адсутнасць падпарадкаванасьці замежнаму панаваньню або дэспатычнаму ўраду”; “права дзейнічаць, казаць ці думаць так як хто-небудзь хоча, без перашкод і абмежаваньняў”; “не быць у турме або ў рабстве”; “стан, у якім ня церпяць уздзеяньня канкрэтнай непажаданай рэчы”, і інш.

Свабода можа ўключаць некалькі чыньнікаў ці некалькі ўзроўняў, такіх як нацыянальная свабода, палітычныя свабоды і правы, грамадзянскія ці індывідуальныя свабоды і правы. Нацыянальная свабода – важнейшая частка свабоды, якая базуецца на жаданьні нацыі кіраваць самой у сваім краі; другімі словамі, нацыянальная свабода перш за ўсё прадугледжвае свабоду ад чужаземнага кантролю.

Грамадзянскія свабоды і правы ўключаюць у сябе права на жыцьцё, эканамічную свабоду, права на роўнасьць перад законам, права на свабоду і асабістую недатыкальнасьць, права выбіраць стыль жыцьця.

Палітычныя свабоды – гэта права на свабоду перакананьняў, права прымаць удзел у кіраваньні дзяржавай. Як відаць, свабод і правоў ёсьць многа, і чым большымі свабодамі і правамі карыстаецца чалавек, тым большы ўзровень развіцьця нацыі-дзяржавы, бо чалавек ад прыроды народжаны быць свабодным.

Свабода не заўжды была ўніверсальнай каштоўнасьцю. Можна мець нацыянальную свабоду без наяўнасьці ці пры абмежаванасьці палітычных і індывідуальных свабод (Ірак у часы С. Хусэйна) ці, напрыклад, як у Спарце, мець нацыянальную і палітычную свабоды без індывідуальнай свабоды. Відавочна, што ідэальным была б нацыя-дзяржава ў якой усе тры катэгорыі свабод былі б сбалансаваны і дзейнічалі разам.

Абмяркоўваючы сітуацыю з правамі і свабодамі ў сучасных, склаўшыхся нацыях-дзяржавах, трэба заўважыць, што няма краін з абсалютнымі свабодамі, заўжды якія-небудзь свабоды парушаюцца. Абмежаванасьць свабоды вынікае з прыроды існаваньня грамадстваў, якія прынялі мадэлі абмежаваньня многіх правоў і свабод з мэтай рэгуляваньня адносін паміж яго грамадзянамі. Пры гэтым, відаць, ня важна, якога прытрымліваца пункту гледжаньня на прыроду чалавека ці людзей, якія складаюць гэта грамадства (G.N. Diem, 1998). Так, калі Т. Хобс (Thomas Hobbes, 1588-1679) бачыў чалавека эгаістычным, драпежным і эксплуататарскім, то іншы погляд на прыроду чалавека выказваў Дж. Лок (John Locke, 1632-1704), які ўяўляў

людзей грамадства свабоднымі, роўнымі і без праяў агрэсіі аднаго чалавека ў адносінах да другога з выкарыстаньнем сілы, падману, альбо іншымі шляхамі.

Паводле Дж. Лока чалавек вымушаны дэлегаваць частку сваіх правоў дзяржаве, бо сам не можа забясьпечыць сваё існаваньне ў стане натуральнай свабоды, г.зн. уступае ў адносіны з дзяржавай, якія абмяжоўваюць яго свабоду. У такія ж узаемаадносіны ў грамадстве ўступае і чалавек ахарактарызаваны Т. Хобсам: чалавек дзейнічае, каб задаволіць свае апетыты, часам за кошт другіх, імкнучыся атрымаць уладу не дзеля ўлады, а для таго каб выкарыстаць яе і атрымаць вынікі, якія яго задавальняюць.

Такім чынам, у абедзьвюх мадэлях чалавек вымушаны ўступаць у сацыяльны кантракт з другімі людзьмі і з дзяржавай для ўтварэньня цывільнага грамадства. Як вынік, чалавек у цывільным грамадстве вымушаны абмяжоўваць стан натуральнай свабоды (па Локу) ці апетыты па задавальненьню сваіх карысных мэтаў (па Хобсу). Абсалютную свабоду магчыма ўявіць хіба толькі ў грамадстве без дзяржаў і межаў (анархія, камунізм).

“Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна”, прынятая 225 гадоў таму назад, аказала значны уплыў на прыняцьце многіх прававых дакументаў, што тычацца правоў і свабод, у прыватнасьці Канстытуцыі ЗША (1787), Канстытуцыі Рэчы Паспалітай (1791), “Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека” (ААН, 1948). Цікава, што СССР, Беларусь, Украіна і некаторыя краіны-сатэліты пры прыняцьці “Ўсеагульнай дэкларацыі” ўстрымаліся і настойвалі на ўключэньні ў “дэкларацыю” толькі эканамічных і сацыяльных правоў, тады як заходнія краіны прапаноўвалі замацаваць у ёй грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды.

Якімі былі і ёсьць нацыянальная, палітычныя і індывідуальныя свабоды ў Беларусі? Які уплыў маюць палітычныя і індывідуальныя свабоды на праяўленьне нацыянальнай свабоды і ў якой меры яны могуць спрыяць нацыянальнаму будаўніцтву?

## КАРОТКАЯ ПРАДГІСТОРЫЯ СВАБОД У БЕЛАРУСКІМ МІНУЛЫМ

Калі ўжываць тэрмін "індывідуальныя свабоды" да часоў Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і Рэчы Паспалітай, то яны рэгуляваліся феадальнымі законамі. Гэтыя рэгулы мелі дачыненьне ў асноўным да адносінаў паміж самімі федаламі, бо просты люд быў несвабодным і бяспраўным. Большасьць людзей, што жылі з зямлі, як і паўсюль у Еўропе, былі прыгоннымі. У 14-15 ст. сяляне на беларускіх землях былі пазбаўлены ўласнасьці на зямлю, былі толькі землекарыстальнікамі, а зямлёй валодалі дзяржава, царква і феадалы.

На тэрыторыі Беларусі з 1588 года дзейнічаў статут ВКЛ, які замацоўваў феадальны грамадскі лад і наяўнасць 2 асноўных класаў: феадалаў і феадальна-залежных сялян. Сялян можна было прадаваць, абменьваць, закладваць. Прыгоннае права ў такім выглядзе праіснавала на нашых землях амаль трыста гадоў. У гарадах людзі жылі крыху вальней. Амаль усе буйныя гарады Беларусі па волі феадалаў атрымалі да сярэдзіны 16 ст. магдэбургскае права: насельніцтва гарадоў вызвалялася ад павіннасьцяў, якія замяняліся грашовым падаткам. Магдэбургскае права спрыяла развіцьцю рамёслаў і гандлю.

Гісторыя парламентарызму і палітычных свабод на беларускіх землях істотна карацейшая ў параўнаньні, напрыклад, з Англіяй, дзе парламент, як пастаянна дзеючая ўстанова, аформіўся ў часы кіраваньня караля Эдуарда I (1272—1307 гг.), і дзе ў далейшым, падчас англійскай рэвалюцыі (1640—1660), былі закладзены асновы парламенцкага ладу, якія існуюць у Вялікабрытаніі да гэтага часу. Палітычны лад ВКЛ уяўляў сабой феадальную манархію на чале з вялікім князем, які ўзначальваў узброеныя сілы, абʼяўляў вайну, заключаў мір, мог уступаць у саюзы з іншымі дзяржавамі. У 14 ст. пры ім існавала вялікакняжацкая рада, якая мела дарадчыя функцыі.

Паводле Статута ВКЛ, улада ў краіне падзялялася на заканадаўчую (сойм), выканаўчую (вялікі князь, адміністрацыйны апарат) і судовую (трыбунал ВКЛ, земскія і падкаморскія суды). Такім чынам, у другой палове 16 ст. ў ВКЛ склалася парламенцкая манархія. Статут дэклараваў удзел простых людзей ў выбраньні гаспадара, аднак іх не дапускалі ў сойм, а ўдзел у палітычным жыцьці, калі такі і быў, абмяжоўваўся мясцовымі справамі. Побач з законамі ВКЛ, дзейнічалі вышэйшыя законы Рэчы Паспалітай, канстытуцыйнай, саслоўнай манархіі, на чале з выбарным каралём. У соймы Рэчы Паспалітай і ВКЛ праходзілі выбары.

Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, прынятая 3 мая 1791 года (была другім у сьвеце канстытуцыйным законам пасьля Канстытуцыі ЗША (1787) і першым у Еўропе), не пасьпела дзейнічаць, бо ў выніку трох раздзелаў (1772, 1793, 1795) паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, сама Рэч Паспалітая перастала існаваць. Такім чынам, 220-240 год таму назад беларускія землі ўпершыню ў гісторыі трапілі пад расійскую акупацыю. Аднак, яшчэ доўга пасьля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай на беларускіх землях (да 1840 г.) дзейнічалі некаторыя палажэньні Статута ВКЛ. На той час былі брутальна парушаны многія правы і свабоды па якіх жылі беларусы ў ВКЛ, і ў першую чаргу рэлігійныя свабоды і ўжываньне Мовы. Як вядома, уплыў каталіцызма на працягу двух стагоддзяў, пачынаючы з Берасьцейскай уніі (1596), прывёў да таго, што паступова амаль 75% беларускага насельніцтва сталі належаць да уніяцкай царквы. З акупацыяй Расіяй сучасных тэрыторый Беларусі, Польшчы і Украіны па рашэньню сінода ў Полацку (1839) уніяцкая царква ў Беларусі ў адзіны момант перастала існаваць і ўсе прыходы былі пераведзены ў праваслаўе. Пасьля трох паўстаньняў (1794, 1830-1831 і 1863), мэтай якіх было аднаўленьне Рэчы Паспалітай, беларусы былі пазбаўлены права ўжываць беларускую мову як у афіцыйных дакументах, так і ў сістэме адукацыі.

Па стану на 1860 год большасьць насельніцтва Расіі складалі сяляне (49.5 с млн з 60.9 млн або 81%), з іх амаль палова (23 млн) былі прыгоннымі. На мінскіх, магілёўскіх, віцебскіх, смаленскіх землях прыгоннымі ў гэты час былі больш за 55% сялян. Доля прыгонных сялян на гродненскіх і віленскіх землях была крыху меншай і вагалася паміж 35-55%. Цар Аляксандр II падпісаў дэкрэт аб ліквідацыі прыгоннага права ў Расійскай імперыі 19 лютага 1861 г. , аднак, працэс вызваленьня рабоў, на самай справе, ішоў аж да канца 19 ст. Для параўнаньня, скандынаўскія краіны ніколі не мелі прыгоннага права. Англія адмяніла яго ў 1600 г., Францыя – ў 1789 г. У большасьці еўрапейскіх краін прыгоннае права было адменена у канцы 19 ст.

Беларусы пад расійскай акупацыяй не ведалі і палітычных свабод. У гарадах Расіі не было магдэбурскага права і мясцовага самакіраваньня, калі не лічыць Ноўгарадскае веча, дзейнасьць якога была спынена пасьля захопу Ноўгарадскага княства Масковіяй (цар Іван III, 1478). Да 1480 г. на працягу амаль трох стагоддзяў Масковія знаходзілася пад уплывам Залатой Арды, нават маскоўскія князі атрымоўвалі ад яе ярлык (дазвол) на кіраваньне сваімі землямі, гэта значыць зьбіралі са сваіх княстваў даніну для Залатой Арды ў абмен на дазволеную ўладу. Прынцыпы аўтарытарнага кіраўніцтва, панаваўшыя ў Залатой Ардзе, былі перанесены на Масковію. Парламентарызм прыйшоў у Расію вельмі позна. Першая дзяржаўная дума-парламент у Расіі, якая ператварыла самадзяржаўную Расію ў парламенцкую манархію, пачала працаваць у 1906 г. У Расіі ніколі не было свабоды ў сучасным разуменьні і гэта абумоўлена як гістарычнымі, персанальнымі, так і эканамічнымі

умовамі. Павага да законаў і агульнапрынятых нормаў да гэтага часу не знаходзяць значнай падтрымкі як у кіраўніцтве, так і ў народа Расіі (Diligensky, Chugrov, 2000).

Такім чынам, узровень індывідуальных і палітычных свабод на тэрыторыі Беларусі ў канцы 19-га і пачатку 20-га стагоддзяў быў вельмі нізкім. У гэты ж перыяд толькі пачыналася зараджэньне беларускай нацыянальнай ідэі ў асяродках Санкт-Пецярбурга і Вільні і, відавочна, яно не магло моцна развівацца ва ўмовах прыгнечанасьці нацыянальных свабод у царскай Расіі.

Сучасная гісторыя беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай свабоды вельмі кароткая – яна пачалася ў сакавіку 1918 года з абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі і са студзеня 1919 года - з утварэньня БССР. За мінулыя амаль 100 гадоў Беларусь стала дзяржавай, а была нікім – “Северо-Западным Краем”. Дзякуючы беларускаму нацыянальнаму руху, гістарычнаму моманту – рэвалюцыі 1917 года і сталінскім ідэям нацыяўтварэньня ў СССР, беларускаму адраджэнью 20-30-х і 90-х гадоў, беларусы паступова з этнаса ператвараюцца ў нацыю.

Ці адчувалі сябе беларусы на працягу апошніх дзесядзігоддзяў свабоднымі? Адказ будзе не суцяшальным. Беларускія сяляне жылі без прыгоннага права нядоўга. Рэвалюцыя 1917 года, якая праходзіла пад лозунгам “ Зямля – сялянам”, скончылася стварэньнем калгасаў, якія ўяўлялі сабой новую форму прыгоннага права. Вясковыя людзі былі бяспраўнымі і беззямельнымі. Сяляне заставаліся прыгоннымі-рабамі, бо не маглі з’ехаць з вёскі без дазволу; у СССР да 1974 г. 62.6 млн жыхароў вёскі старэй за 16 год (36% ад колькасьці ўсяго насельніцтва) ня мелі пашпартоў, а г.зн. не маглі свабодна перамяшчацца нават у межах Саюза. У савецкі перыяд фармальна дзейнічалі Канстытуцыі РСФСР (1918), СССР 1924 (з дапаўненьнямі ў 1927 г.), 1936, 1977 гадоў і Канстытуцыі БССР (1919, 1927, 1937, 1978, 1994), дэкляраваўшых правы і свабоды. Аднак, нават там былі выключэньні. Так, напрыклад, у Канстытуцыі БССР 1927 г. (Артыкул 71) быў шэраг абмежаваньняў выбарчых правоў для “чуждых элементов”:

> “Не избирают и не могут быть избранными, хотя бы они и входили в одну из перечисленных категорий: а) лица, прибегающие к наемному труду с целью извлечения прибыли; б) лица, живущие на нетрудовой доход, как-то: проценты с капитала, доходы с предприятий, поступления с имущества и т. п.; в) частные торговцы, торговые и коммерческие посредники; г) монахи и духовные служители религиозных культов всех исповеданий и толков; д) служащие и агенты бывшей полиции, отдельного корпуса жандармов и охранных отделений, члены

> царствовавшего в России дома, а также лица, руководившие деятельностью полиции, жандармерии и карательных органов; …”

Маючы гарантаваныя канстытуцыямі свабоды, людзі, якія пачыналі цікавіцца пытаньнямі нацыянальнай свабоды, плацілі за гэта жыцьцём ці высылкай у далёкія раёны, дзе, як рабы, рылі “беламорканалы” і будавалі “днепрагэсы”. Асноўная маса народу ніколі не мела ўласнасьці, што поўнасьцю выбіла з людзей ініцыятыўнасьць і адказнасьць за вырашэньне эканамічных і сацыяльных праблем сям’і. Адсутнасць права на ўласнасьць, эканамічных і палітычных свабод, прывялі да таго, што людзі звыкліся з кіруючай рольлю дзяржавы і адзінай партыі. Галасаваць хадзілі, бо баяліся пакараньня за няўдзел, выбіралі без выбару, бо не было альтэрнатыўных кандыдатаў, да таго ж на час выбараў у буфеты завозілі дэфіцытныя прадукты (напрыклад, мандарыны). Здавалася, што пасьля 1991 г., калі Беларусь стала свабоднай і незалежнай ад Расійскай імперыі, адбудуцца значныя перамены. І яны пачаліся, нават выбары першага Прэзідэнта краіны ўзрушылі і паднялі людзей. Ды атрымалася гістарычная памылка, зьмены не прыйшлі, усё засталося па-ранейшаму. Фактычна, не адмаўляючы палітычныя і грамадзянскія свабоды, беларусам прапаноўваецца “чарка і шкварка”.

## ФАКТАРЫ, АД ЯКІХ ЗАЛЕЖЫЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СВАБОДА

### Нацыянальная эліта

Сёньня Беларусь – незалежная, суверэнная краіна і ў гэтым сэнсе фармальна - нацыянальна свабодная. Супярэчнасьці узнікаюць пры параўнаньні вызначэньняў нацыянальнай свабоды, як гэта разумеюць прадстаўнікі нацыянальнай эліты, з той фармальнай нацыянальнай свабодай, якая існуе і ўмацоўваецца зараз у рускамоўнай цывільнай дзяржаве Беларусь.

Паводле розных меркаваньняў, у краіне існуюць дзьве беларускія ідэнтычнасьці ці этнасы (абарыгенаў-этнанацыяналістаў і “крэолаў”; Рабчук, 2005), дзьве культуры (культура-1, культура-2; Астапенка, гл. Зборнік, с.81-98), дзьве арыентацыі (“гордые белорусы” или “националисты” і “разочарованные белорусы” или “космополиты”; Манаеў, Дракахруст, 2012), два варыянты ідэнтычнасьці (нацыянальны і постсавецкі-заходнерускі; Радзік, 2012), дзьве групы людзей (сьвядаміты і несьвядаміты; Воранаў, 2013). Г. Туміловіч (2013) разглядаючы праблему беларускай ідэнтычнасьці адзначыла, што пад уплывам асобы кіраўніка краіны адчуваньне «коллективного одиночества» и определяет во многом форму, в которой развивается сегодня национальное белорусское сознание». Падаецца, што падобныя

азначэньні існуючых рэальнасьцяў даволі дакладна адлюстроўваюць сітуацыю. Краіна падзелена даследчыкамі на дзьве часткі: адна частка, ідэі якой падзяляюць каля 25-30% насельніцтва, ідзе за нацыянальнай элітай (В. Вілейта, 2005); другая частка, большая, складаецца з прыхільнікаў сёняшняга кіраўніцтва дзяржавы. Абедзьве гэтыя часткі ці ідэалогіі выкаростоўваюць розную гістарычную і культурную базу для будаўніцтва дзяржавы, якую яны ўяўляюць як нацыянальную. Нацыянальная эліта карыстаецца доўгатэрміновай гістарычнай памяцьцю (Полацкае княства, ВКЛ, станаўленьне беларускай нацыі канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзяў, беларусізацыя 20-30-х і 90-х гадоў 20-га стагоддзя), тады як сучаснае кіраўніцтва для ўсталяваньня сваёй перавагі выкарыстоўвае кароткатэрміновую гістарычную памяць (калектывізацыя і індустрыялізацыя савецкіх часоў, Вялікая айчынная вайна, цяжкасьці пасьляваеннага перыяду).

Відавочна, што прасавецкая частка, якая зараз знаходзіцца пры ўладзе, усякімі шляхамі спрабуе прынізіць прадстаўнікоў нацыянальнай эліты, якіх бачыць сваімі канкурэнтамі і ворагамі. Многімі працяг такой сітуацыі бачыцца незваротным (Рабчук, 2012). У нядаўнім артыкуле, зыходзячы з рэалій, было выказана меркаваньне, што будаўніцтва нацыянальнай беларускай дзяржавы ў перспектыве магчыма (Мурзёнак, 2013). Трэба толькі дадаць, што калі б працэс беларускага неоадраджэньня 1991-1994 гадоў працягваўся, то відавочна, што пытаньня аб “крэольскай” дзяржаве не ўзнікала б.

З практычнага пункту гледжаньня, далейшае падзяленьне на “вашых і нашых” не будзе спрыяць умацаваньню нацыянальнай свабоды для краіны. Нягледзячы на пастаянны ўціск з боку ўлады на прадстаўнікоў нацыянальнай эліты і на тое, што яны робяць, нацыянальная эліта з’яўляецца адным з галоўных станоўчых фактараў у прыбліжэньні сапраўднай нацыянальнай свабоды, бо нясе ў сабе глыбокую гістарычную, культурную і генетычную праўду пра беларускую нацыю.

**Нацыяналізм і сучаснае будаўніцтва нацый**

Нараджэньне новых нацыянальных дзяржаў у канцы 19-га - пачатку 20-га стагоддзяў ў Еўропе было рэальным дзякуючы як нацыянальным сілам, якія імкнуліся да свабоды, так і спрыяльным гістарычным умовам (развал Аўстра-Венгерскай, Атаманскай і Расійскай імперый, першая сусьветная вайна). Лічыцца, што нацыяўтварэньне ў пост-мадэрны перыяд немагчыма. Сёньня нацыяналізм на захадзе бачыцца ў адмоўным сэнсе, як праявы ксенафобіі, нацыянал-фашызму, і г.д. Фактычна, на захадзе баяцца нацыяналізма і патрыятызма, нягледзячы на тое, што самі перажылі эпоху станаўленьня нацый.

Аднак, заходнія меркі не заўжды падыходзяць да сучасных новаўтвораных дзяржаў. Таму яркі прыклад будаўніцтва на нашых вачах нацыянальных дзяржаў на тэрыторыях былой Югаславіі і СССР, якое адбылося і працягваецца сёньня. Нацыяналізм, скіраваны на будаўніцтва нацыі па многіх прычынах ёсьць з'ява пазітыўная, пры ўмове павагі да правоў і свабод як карэннай нацыі, так і нацыянальных меншасьцяў; бо цяжка ўявіць сьвет без дзяржаў і нацый у бліжэйшыя 50-100 гадоў. Здаецца, што на захадзе не зусім разумеюць асаблівасьці сучаснага нацыяўтварэньня ў пост-савецкіх краінах: Беларусі, Казахстане, Латвіі, Украіне. І хоць другая спроба за апошнія 10 год асягнуць сапраўдную нацыянальную свабоду на Украіне зараз падлягае вялікаму іспыту, аднак, ёсьць тэарэтычныя і практычныя падставы сьвярджаць, што нават у наш час нацыянальнае будаўніцтва працягваецца. Ніхто не можа спыніць гэты працэс, нават імперская Расія.

**Фактар мірнага суіснаваньня**

Адным з фактараў, які мог бы спрыяць нацыянальнай свабодзе з'яўляецца адносна доўгі перыяд мірнага суіснаваньня. Магчымасьць ужываньня ядзернай зброі сёньня можна ўявіць толькі пры пагрозе існаваньню краін, якія ёй валодаюць. У іншых выпадках, здаецца, ужываньне ядзернай зброі немагчыма, калі падпарадкоўвацца здароваму сэнсу і досьведу яшчэ нядаўніх глабальных і лакальных войн (II сусьветная, карэйская, ірана-іракская, югаслаўская, іракская, афганская, расійска-грузінская, а цяпер і расійска-украінская). Аднак, як паказала ваенная агрэсія Расіі супраць Украіны, гэты фактар значнай ролі не мае. З тых краін, якія гарантавалі бясьпеку і суверэнітэт Украіне (Расія, ЗША, Вялікабрытанія), Расія парушыла гэтую міжнародную дамову, а ЗША і Вялікабрытанія ёсьць банкротамі, бо не змаглі выканаць дадзеныя імі абавязкі. Такая ж Дамова ёсьць і для Беларусі, але з гэтага часу можна казаць, што гарантаў у сьвеце няма, калі ацэньваць тыя недастаковыя і неадэкватныя дзеяньні ў адказ на агрэсію Расіі як з боку падпісантаў гэтай Дамовы, так і з боку іншых краін заходняй дэмакратыі.

**Фактар глабалізацыі**

Працэс глабалізацыі, які характарызуе далейшае развіцьцё імперыялізму (капіталу), здаецца, мог бы з'яўляцца фактарам, які размывае дзяржаўныя межы і пагражае існаваньню маленькіх і вялікіх нацый. Усё ж, на прыкладзе ЕС, гэтага пакуль не назіраецца. Скасаваньне межаў паміж шэрагам дзяржаў ЕС (Шэнгенскае пагадненьне ад 1985 г.) не вядзе да ліквідацыі нацыянальнай ідэнтычнасьці, да

прыкладу, люксембуржцаў ці нарвежцаў. Наадварот, зараз назіраецца тэндэнцыя да адасабленьня і адмежаваньня ад агульнай прасторы ЕС, па крайней меры ў дачыненьні ўжываньня грашовай адзінкі еўра (Вялікабрытанія). Варта нагадаць і крытыку ў адрас будучыні ЕС, маючы на ўвазе нават магчымы выхад некаторых краін з гэтай супердзяржаўнай структуры (Грэцыя, Чэхія). Можна аднак меркаваць, што ў бліжэйшай перспектыве (30-50 гадоў) глабалізм-імперырыялізм не будзе адмоўна ўплываць на існаваньне нацый і нацыянальнай свабоды. Капітал зацікаўлены мець розныя рынкі і розныя умовы існаваньня нацый, дзе б ён мог памнажаць свае грошы.

**Зьнешнія фактары і падвойныя стандарты**

Маленькія краіны заўжды апыналіся пад уплывам больш магутных суседзяў, нягледзячы на тое, якія сілы, цэнтрабежныя ці цэнтраімклівыя, пераважалі ў саміх краінах. Зьнешнія фактары прыводзілі да падзелу вялікіх і маленькіх нацый (Германія, Карэя, Асеція) і, наадварот, яны не дазваляюць падзеленым нацыям заснаваць сваю дзяржаўнасьць і асягнуць нацыянальную свабоду (курды, палесьцінцы).

Зьнешні фактар, як для Беларусі, так і для Украіны, зараз мацнейшы з Усходу, бо Захад, у пагоні за грашыма, губляе каштоўнасьці і здраджвае тым прынцыпам, на якіх пачынаў будавацца. Сёньня лозунгі свабоды і дэмакратыі зьбіваюцца на рэйкі рэальнай палітыкі, пад якой фактычна маецца на ўвазе звычайны гандаль дэмакратычнымі і гуманітарнымі каштоўнасьцямі ў абмен на эканамічныя выгады (Германія-Расія-Шрэдэр-балтыйскі нафтапровад, і іншыя прыклады). Фактычна, гэтага ж чакаюць ад урадаў і звычайныя грамадзяне такіх краін. Падвойныя стандарты ўжываюцца амаль усімі краінамі, уключна з краінамі-дэпазітарыямі ядзернай зброі, прэтэндуючымі на стварэньне іншых полюсаў чалавечага развіцьця (Расія, Кітай). Балансаваць у гэтай сітуацыі Беларусі, Украіне і іншым пост-савецкім рэспублікам складана.

Палітыку неакаланіялізма, якую раней ужывалі распаўшыяся імперыі (Брытанія, Францыя), цяпер працягвае ўжываць Расія ў адносінах да нядаўніх суседзяў па СССР. У ход пайшлі не толькі эканамічныя пагрозы, але і прамая ваенная агрэсія, на гэты раз у адносінах да Украіны. Міжнародная супольнасьць, нарэшце, заўважыўшы праблему пасьля адкрытай агрэсіі (так падаецца на першы погляд), працягвае гандаль за Украіну з Расіяй (усяго за нейкіх 15-20 млрд даляраў, з-за намеру Украіны падпісаць у Вільні пагадненьне аб асацыяцыі з ЕС ў лістападзе 2013 года). Закрэсьлены маральныя прынцыпы падтрыманьня свабод, ідзе адкрытая купля-

прадажа. Гандаль працягваецца і гэта відаць па тых паўмерах і нерашучых кроках, якія робяць і ЕС, і ЗША ў адказ на акупацыю і анэксію Крыма Расіяй.

Трэба заўважыць, што акупацыя Крыма Расіяй адбылася насуперак Міжнароднай дамове 1994 г. аб гарантыях бясьпекі і суверэнітэту для Украіны і Беларусі, падпісанай Расіяй, Вялікабрытаніяй і ЗША. Расія, у мінулым “жандарм Еўропы”, працягвае выконваць функцыі падаўленьня свабоды ў наш час, разглядаючы незалежную Украіну як сваю вотчыну. Відавочна парушэньне міжнародных правоў і існуючага парадка. Расія вярнулася да рэалізацыі еўразійскай ідэі і працягвае рух з усходу на захад, які то сьціхаў, то ўзнаўляўся з часоў Залатой Арды. Абараняць рускамоўнае насельніцтва можна паўсюдна, не толькі на Украіне, а і ў Беларусі, Казахстане, Латвіі, Эстоніі, і прыціснуць з дапамогай зброі імкненьне гэтых краін да нацыянальнай свабоды. Зараз цяжка прадбачыць магчымыя наступствы ўварваньня Расіі на тэрыторыю Украіны: аналітыкі разглядаюць як верагоднасьць трэцяй сусьветнай вайны (Усход-Захад, Візантыя-Рым), так і развал многанацыянальнай Расіі (83 суб’екты, больш за 190 народаў і народнасьцяў).

Зусім нядаўна сьвет быў сьведкам дзьвух чачэна-расійскіх войнаў (1994-2000). Калі б такія войны ішлі ў Афрыцы, ці Лацінскай Амерыцы, то яны, па савецкіх мерках, называліся б нацыянальна-вызвольнымі. Аднак, дзве нацыянальна-вызвольныя вайны, якія вёў чачэнскі народ з Расіяй, скончыліся тым, што чачэнцаў цяпер у сьвеце ў асноўным прадстаўляюць як тэрарыстаў, у лепшым выпадку сепаратыстаў (гэта пры ўмове права нацыі на самавызначэньне і аддзяленьне). Трэба нагадаць, што падчас гэтых войнаў загінулі каля 200.000 мірных грамадзян Чачні (з іх каля 40 тыс. дзяцей) і каля 20.000 расійскіх вайскоўцаў. Вядома, сьвет стаміўся ад войнаў і хоча стабільнасьці, міру і дабрабыту. Аднак, сёньня з цяжкасьцю хтосьці можа адрозьніць нацыянальна-вызвольны рух ад тэрарызму, пад які сьпісываюць усё і з гэтым моўчкі пагаджаюцца краіны ў любой частцы сьвету, баючыся ў першую чаргу за сваю тэрыторыяльную цэласьць. Зноў жа, працуюць падвойныя стандарты.

Здавалася б, у гэтых гістарычных умовах (ціск Расіі і нерашучасьць Захаду) і на далёкую перспектыву найлепшым выхадам для Беларусі была б заява аб нейтральнасьці ў Еўропе, што і прапісана ў Канстытуцыі РБ (Артыкул 18 “Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без'ядзернай зонай, а дзяржаву нейтральнай”). Гэта б дазволіла зняць пастаянны ўціск еўразійскай Расіі і ўвайсьці ў сям’ю еўрапейскіх народаў з яе дэмакратычнымі інстытутамі. Для гэтага Беларусь многа мае: адукаваных і культурных людзей, разьвітую інфраструктуру, выгадную тэрыторыю. Аднак, хто забясьпечыць “мірны ядзерны парасон”? Як асягнуць нейтральнасьць, калі нацыянальная свабода дзяржавы знаходзіцца пад пагрозай дзеяньня чужых войскаў расквартэраваных на яе абсягах? Гэта пагроза

з'яўляецца самым небясьпечным, адмоўным фактарам уплыву на нацыянальную свабоду.

**Унутраныя фактары і беларуская сьвядомасьць**

Па ацэнках міжнародных незалежных арганізацый, Беларусь, па паказчыку дэмакратыі займае 141 месца ў сьвеце і ўваходзіць у групу краін з аўтарытарным рэжымам, па паказчыку эканамічнай свабоды – 150-е, па паказчыку свабоды прэсы – 168-е (Табліца 1). Парушэньне свабод адзначаюць і праваабаронцы ў Беларусі (Пастухоў, Пульша, 2013; Беларускі праваабарончы Хельсінскі Камітэт, http://belhelcom.org/node/19158). І гэта не дзіўна, усе старыя парадкі, якія існавалі ў савецкі час перайшлі ў спадчыну да новаўтвораных дзяржаў, дзе сістэма кіраваньня і нават ідэалогія і самі кіраўнікі не зьмяніліся.

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя амаль існавала новая існасьць – савецкая нацыя. У 1991 г. 69% беларускага насельніцтва лічыла сябе савецкімі людзьмі, і толькі 24% ідэнтыфікавала сябе належнымі да рэспублікі Беларусь (Titarenko, 2007). У той жа час, дэкларавалася развіцьцё нацыянальных культур, але яно было ў дазволенай меры і не магло перайсьці межы магчымага аддзяленьня нацыі-народа са складу СССР. Шараговыя грамадзяне нават не заўважалі наяўнасьці палітычных свабод бо імі рэальна не карысталіся.

У той жа час, сацыяльная абароненасьць людзей і эканоміка краіны былі даволі высокімі. Невыпадкова па індэксу чалавечага развіцьця большасьць рэспублік былога СССР знаходзяцца зараз сярод краін з высокім і вельмі высокім узроўнем (індэкс разлічваецца на падставе чатырох паказчыкаў – працягласьці жыцьця, колькасьці гадоў навучаньня ў школе, рэальнага працягу навучаньня ў школе (у гадах), і нацыянальнага даходу ў разьліку на кожнага чалавека). Па гэтаму індэксу Беларусь займае 50-е месца ў сьвеце (2013). Адзначаны дыссананс паміж узроўнямі свабод і ўзроўнем жыцьця можа сьведчыць аб недастатковым развіцьці палітычнай культуры і традыцый як у кіраўніцтва, так і ў шараговых грамадзян гэтых краін, што ў значнай меры абумоўлена савецкай спадчынай.

